ЯНКА КУПАЛА
Народны паэт Беларусі

# БЕЛАРУСКІМ ПАРТЫЗАНАМ

Выданне газеты «Совецкая Беларусь»
1942 год.

## ЗМЕСТ




Рэдактар Т. ГАРБУНОЎ.

73456 Зак. 118

# ПАМЯЦІ ЯНКІ КУПАЛЫ

Вялікае гора спасцігла беларускі народ. На 60-ым годзе жыцця памёр Янка Купала— вялікі сын свайго народа, адзін з пачынальнікаў беларускай літаратуры, неправзыйдзены майстар мастацкага слова, выдатны беларускі асветнік.

Амаль 40 год Купала горача і нястомна змагаўся за шчасце сваёй Радзімы, свайго народа.

Купала ўвесь свой вялікі талент, усё сваё гарачае сэрца, усе сілы аддаў Радзіме, народу. Ён быў страсным патрыётам Совецкай краіны, непрымірымым барацьбітом супроць нямецкіх фашыстаў. Ён ненавідзеў іх, як прыгнятальнікаў сваёй Радзімы і народа, як подлых забойцаў, якія прынеслі смерць і разбурэнне беларускім гарадам і вёскам. Свае гнеўныя вершы, поўныя непагаснай страсці, накіраваў ён супроць нямецка-фашысцкай банды.

Купала ў сваіх вершах і зваротах заклікаў беларускі народ і яго слаўных прадстаўні-

коў—партызан да бязлітаснай барацьбы з ворагам:

Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны!
За няволю, за кайданы
Рэжце гітлерцаў паганых,
Каб не ўскрэслі век яны.

У гэтым зборніку мы змяшчаем адзін з артыкулаў і некаторыя вершы Я. Купалы, напісаныя ім у перыяд Айчыннай вайны. Янка Купала выступае ў іх страсным змагаром з чужынцамі, трыбунам, які кліча беларускі народ на бязлітаснае змаганне з ненавіснымі акупантамі.

# ПАДНЯЛАСЯ БЕЛАРУСЬ

Не ў першы раз сустракаць беларусам іншаземных заваяваццеляў, не ў першы раз гудзець беларускай зямлі трывожным набатам.

Дастойную сустрэчу прыгатавала Беларусь фашысцкім варварам у кожным сяле, у кожным сваім лесе.

Я бачыў, як сустракаў беларускі народ захопнікаў. Разбягаліся па лясах, па балотных трушчобах усе, хто мог рухацца, усе, хто мог насіць зброю. Жанчыны на плячах сваіх унасілі малых дзяцей, гаворачы: няхай лепш у балоце згіне, чым застанецца нямецкім фашыстам.

На святую народную вайну з ворагамі падняўся беларускі народ. Ведаюць і бачаць людзі, што нясе ім Гітлер.

Праязджаючы ад Коўна, я бачыў сам, як над дарогай, на якой нікога не было апрача натоўпу старыкоў, жанчын і дзяцей, раптам знізіўся нямецкі знішчальнік. На брэючым палёце фашысцкі вампір расстрэльваў з кулямётаў безабаронны натоўп і кінуўся ўцякаць, як толькі на гарызонце паказаліся крыллі совецкіх ястрабкоў.

Фашысцкі сцярвятнік не паспеў уйсці ад заслужанай кары і ў 20 кілометрах ад месца крывавага забойства быў збіт совецкімі лётчыкамі. А натоўп беларускіх сялян астаўся ляжаць на дарозе. Па сівых барадах старыкоў паўзлі густыя патокі крыві. Мёртвыя мацеры сціскалі ў сваіх руках мёртвых дзяцей.

Труслівыя забойцы! Яны бамбяць безабаронныя сёлы, мястэчкі.

Яны грабяць, гвалцяць нашых жанчын, як скаціну, рэжуць людзей.

Ці трэба гаварыць аб тым, чаму падымаецца беларускі народ на захопнікаў?

Совецкая ўлада, партыя Леніна—Сталіна далі беларускаму народу ўсё, што мог ён жадаць, усё, аб чым ён марыў стагоддзямі.

Упершыню ў гісторыі ў беларускіх хатах паявіліся багацце і шчасце, упершыню ў гісторыі Беларусь атрымала сваю дзяржаўнасць.

На што-ж мяняць нам свабоду? На плеці і шыбеніцы фашысцкіх катаў, на лёс рабоў?

Не бываць гэтаму! Не аддадуць беларусы навечна ім аддадзеную совецкую, родную зямлю.

Таварыш Сталін, вялікі правадыр усіх народаў, сказаў:

«Народы Совецкага Саюза павінны падняцца на абарону сваіх правоў, сваёй зямлі супроць ворага».

Так будзе. Я ведаю беларускі народ і веру ў яго сілы. Увесь, як адзін, стане ён на барацьбу па закліку правадыра.

Выдатны рускі багатыр мінулага стагоддзя партызан Дзяніс Давыдаў пісаў праз многа год пасля выгнання напалеонаўскіх полчышчаў з Расіі:

«Яшчэ Расія не падымалася ва ўвесь іспалінскі рост свой, і гора яе непрыяцелям, калі яна калі-небудзь падымецца».

Адзін з перадавых людзей свайго часу Давыдаў разумеў, што напалеонаўскія полчышчы былі знішчаны ледзь ці не дзесятай доляй рускага народа. Толькі бліжэйшыя да заходняй граніцы губерніі білі напалеонаўскія войскі, толькі ў цэнтральнай Расіі збіралася народнае апалчэнне супроць непрыяцеля. А што-ж будзе цяпер, калі з усіх краёў Совецкага Саюза рушыла на ворага магутная, багатырская раць?

Грозным прароцтвам, прыгаворам над фашысцкімі ізуверамі гучаць зараз словы рускага патрыёта.

Яшчэ не ўсе балоты паспелі асушыць беларусы на сваёй зямлі. Глыбокія балотныя магілы чакаюць фашыстаў.

У лясах, у балотах Беларусі пачынаецца грозны партызанскі рух.

Я ведаю, што будзе рабіць мой народ. Следуючы закліку правадыра, ён не пакіне ворагу ні аднаго фунта хлеба, ні аднаго літра га-

ручага. Жывёла, хлеб, трактары, вагоны—усе вывезуць за сабой беларусы з захвачаных немцамі раёнаў, а калі вывезці не паспеюць— аддадуць агню.

У занятых ворагам раёнах ствараюцца партызанскія атрады—конныя і пешыя. Вока—за вока, зуб—за зуб адкажам мы фашыстам, не дадзім ім ні адпачынку, ні тэрміну. Паляцяць у паветра масты, склады і абозы. Любяць у Беларусі званых гасцей і не любяць нязваных. Пакуль будзе жыць хоць адзін беларус, не будзе на беларускай зямлі спакою фашысцкім захватчыкам, горкае будзе іх жыццё — з кожнага дрэва, з кожнага яра будуць сачыць за імі пільныя партызанскія вочы.

Вялікі Сталін гаворыць, што вайну з фашысцкай Германіяй нельга лічыць вайной звычайнай. Так, гэта не звычайная вайна. Гэта вайна розуму супроць вар'яцтва, свабоды — супроць катаргі, чалавека — супроць звера.

Мы не адны ў барацьбе. Вялікі рускі народ стаіць за намі грознай сцяной, на левым флангу беларускага народнага апалчэння рушаць арміі патомкаў Багдана Хмельніцкага, доблесных воінаў Совецкай Украіны.

Як у старадаўнія часы, разыйдуцца па лясах і ярах украінскія бандурысты і беларускія дудары. Зноў, як і дзвесце год назад,

будуць яны падымаць народ на барацьбу супроць акупантаў.

Агляніцеся па баках, беларусы. Шырыцца і расце ў роднай па крыві Югаславіі сакаліны партызанскі рух.

Немцы заклейваюць грознымі плакатамі залітую крывёю краіну.

— За кожнага забітага немца будзе расстраляна і павешана сто сербаў.

Смехам сустракаюць фашысцкія пагрозы сербскія партызаны і гавораць:

— Вельмі многа—сто сербаў за аднаго немца. Дарагая цана, не па кішэні. Але калі кожны серб раней заб'е па аднаму немцу, то як-жа вы, фашысцкія каты, заб'еце сто сербаў за аднаго фашыста?

Таксама скажам і мы, беларусы. Пралілася кроў нашых жонак, дзяцей, мацярэй і бацькоў. Няма нашай віны ў пачаўшайся вайне. Фашысты, як грабіцелі, уламіліся ў чужыя вароты.

Няхай-жа не гневаюцца няпрошаныя госці. Чым багаты, тым і рады. Для добрага чалавека—вароты насцеж, хлеб і гарэлку на стол. Для начнога ворага, для злодзея — меч і агонь.

Беларускі народ удастоіў мяне пачотным званнем народнага паэта краіны. Беларускі народ выбраў мяне членам Вярхоўнага Савета рэспублікі. Велізарнае давер'е аказаў ён мне.

Усім, хто ведае і памятае мяне ў Беларусі, усім, хто стаіць зараз па той бок, у нямецкім тылу, усім, хто з нашага боку агнём і мечам граміць фашысцкія орды, хочацца мне сказаць:

— Многа год мне. Не крывіў я душой змоладу, не пакрыўлю і зараз, у грозны час. Слухайце Сталіна, дзеці. Сталін гаворыць:

«Нашы сілы незлічоны. Зазнаўшыйся вораг павінен будзе неўзабаве пераканацца ў гэтым...

Усе сілы народа — на разгром ворага!

Уперад, за нашу перамогу!» — гаворыць Сталін.

Паўторым, браты, за Сталіным следам: Уперад, за нашу перамогу!

Будзе зноў шчаслівая Беларусь пад сонцам Сталінскай Канстытуцыі. Пройдуць цяжкія дні. Славай авеяныя, вернуцца на радзіму героі—сыны беларускага народа. Вечнай добрай памяццю памяне народ загінуўшых за яго жыццё, за яго чэсць, за яго свабоду.

## БЕЛАРУСКІМ ПАРТЫЗАНАМ

Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны!
За няволю, за кайданы
Рэжце гітлерцаў паганых,
Каб не ўскрэслі век яны!

На руінах, папялішчах,
На крывавых іх слядах
Хай груган іх косці ліча,
На бяседу соваў кліча,
Баль спраўляць на іх касцях.

Няхай Гітлеру-вампіру
Клююць сэрца, смокчуць кроў,
Сыты быў людскім ён жырам,
П'яны быў крывавым вірам,
Хай-жа гіне звер звяроў!

Выразаў ён старцам вочы,
Рэзаў матак і дзяцей,
Дзікай зданню, патарочай
Засланяў дні чорнай ночай,
Хай-жа гіне ліхадзей.
Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны!
За няволю, за кайданы
Рэжце гітлерцаў паганых,
Каб не ўскрэслі век яны.
Клічу вас я на пабеду,
Хай вам шчасцем свецяць дні,
Выразайце людаедаў,
Каб не стала іх і следу
На святой нашай зямлі.
Цень забітых матак, дзетак,
Дзедаў вашых і бацькоў,
Акрываўлены палетак
Клічуць мсціць крывава гэтак,
Як не мсцілі ад вякоў.
Не давайце гадам сілы
Над сабою распасцерць:

Рыйце загадзя магілы,
Вырывайце з жывых жылы,
Кроў за кроў, а смерць за смерць!
Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны!
За няволю, за кайданы
Рэжце гітлерцаў паганых,
Каб не ўскрэслі век яны.

Няхай ваша перамога
Не кідае вас нідзе,
Не пужае хай трывога —
Ваша чыстая дарога
Да свабоды давядзе.

Вашы бітвы ўвесь свет бача,
Бача Сталін родны наш,
Як фашыстаў род сабачы,
Людарэзаў зброд смярдзячы
Нішчыць ваша варта-страж.

Так ад нечысцяў ачысцім
Нашы нівы і лясы,
Фашыстоўскіх псоў панішчым,
І схінуцца, як калісьці,
Для нас нашы каласы.

Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны!
За няволю, за кайданы
Рэжце гітлерцаў паганых,
Каб не ўскрэслі век яны!

## ПАЎСТАЎ НАРОД

Паўстаў народ мой беларускі гераічны,
Дзяды, унукі, ўнучкі, ўсе паўсталі
На вечавы кліч, кліч бадзёры і вялічны,
Які нам кінуў правадыр наш родны Сталін.
І гітлераўскім бандам, фашысцкім
крывапіўцам
Нядоўга катаваць народ' ніўчым нявінны,
Ён перарэжа горла людаеду, ўбіўцу,
Ён Гітлера павесіць на сухой асіне.
Паўстаў народ, як і ў мінулых ён стагоддзях,
За волю, за зямлю супроць сатрапаў
азвярэлых.
Шчаслівых перамог, свабодны мой народзе.
Шчаслівай долі на загонах тваіх родных,
спелых.
Хай хлеба нашага кусок распаленым жалезам
Абярнецца ў ворагавым горле крывясмочым,
Вада з крыніц жывых хай зверам-людарэзам
Атрутай будзе і сляпіць крывавыя іх вочы.
Знай, на чале народ вялікі рускі ў зброі
Ідзе на ворага з мільёнамі народаў,

Таварыш Сталін знача шлях да перамог у боі,
Да перамогі над фашысцкай збэшчанай
пародай.
Паўстаў народ, як і ў мінулых ён стагоддзях,
За волю, за зямлю супроць сатрапаў
азвярэлых.
Шчаслівых перамог, свабодны мой народзе:
Шчаслівай долі на загонах тваіх родных,
спелых.

## ХЛОПЧЫК І ЛЁТЧЫК НА ВАЙНЕ

Мой мілы таварыш, мой лётчык,
Вазьмі мяне ўрэшце з сабой,
Цяпер не малы я ўжо хлопчык —
Сам-раз ляцець разам у бой.
Мне мамку зарэзалі немцы,
Сястрычку спалілі жыўём,
Дык хай-жа кроў чорная льецца,
Іх псіная кроў ручаём.
Лічыць з табой будзем не зоры,
Галовы мы станем лічыць,
Галовы немчур-людажораў,
Што будзем смяротна глушыць.
Ты будзеш глядзець самалёта,
А бомбы скідаць буду я,
І буду страляць з кулямёта
У сабачыя сэрцы звяр'я.
Мы гітлерцаў будзем ністожыць,
Гаціць імі топкую гаць,
З кутоў нашых родных прыгожых
Грабежніцкі зброд выганяць.
Давіць мы іх будзем, як вошаў,
Як гадкіх смярдзючых клапоў.

Караць што-раз караю горшай
Сягонняшніх рыцараў-псоў.
Свайго самалёта днём, ночай
Не выпусцім, лётчык, мы з рук.
Берліну загляием у вочы,
У крывавыя вочы гадзюк.
І зробім чуць-чуць астаноўку,
Каб сцерве папасці ў папад:
Для Гітлера скінем вяроўку,
Хутчэй каб павесіўся кат.
Так будзем лятаць з табой разам —
Адважныя ўсюды ў баю,—
Фашысцкую смерціць заразу
За мамку й сястрычку маю.
Змяцём з беларускіх загонаў
Паганыя банды прыблуд,
Край вызвалім родны з палону,
Нямецкіх пазбавімся пут.
А вернемся стуль, дзе лыталі,
Дзе ворагі трупам ляглі,
Спаткае таварыш наш Сталін
Прыветліва ў самым Крэмлі.
І скажа ён так мне з табою:
Пра вас я ўжо чуў многа раз,—
Вы—хлопчык і лётчык—героі,
Чакаюць вось ордэны вас.

## ГРАБЕЖНІК

Брыдзе, паўзе сліўнем раз'юшаны грабежнік,
Сцякае кроў на каршуновых яго лапах,
Людское цела рве, як вырадак-драпежнік,
Яму шчакоча ноздры-храпы трупны запах.
Пад чорны горкі дым агнішчаў, пажарышчаў,
Пад енкі-стогн канаючых афяр нявінных,
Спраўляе дзіка страшны свой банкет-ігрышча
Ен, п'яны ад крыві дзіцячай, мацярынай.
Пасцель сабе і трон свой жудасны хаўтурны
З касцей і чэрапоў пастроіў чалавечых,
Хаўтурныя да сну яму іграюць сурмы,
На раніцу склікаюць людарэзаў веча,
Купаецца ў слязах удовіных, сірочых,
Апошнія здзірае з плеч старых кашулі,
Распасвены, вясёлы рыцар цёмнай ночы,
Прысяжны вешацель, цар скоцкага разгулля.
Аграбіўшы, пусціў з жабрацкай торбай
Польшчу,
Чэхаславакію, як ястраб, раскляваў на часці,
На Францыю грабеж свой зверскі
растапоршчыў
І сонечную Грэцыю у цемру запрапасціў.

Нарвежскія крывёй нарвежскаю заліў фіорды.
Як ліпу, Бельгію й Галандыю абчысціў,
У ярмо запрог харватаў мірных, сербаў
гордых,
Усё для сваёй разбойніцкай,
грабежніцкай карысці.
Брыдзе, паўзе ў крыві людское па калена
Народамі праклятьі гнусны зарубежнік,
Не шакал ён, не гадзіна і не гіена,—
Ен — Гітлер, фюрэр прускі, трупаед,
грабежнік.

## НОЎ БУДЗЕМ ШЧАСЦЕ МЕЦЬ І ВОЛЮ!

Лютуе Гітлер ашалелы,
Яму ў Германіі зацесна,
Яму пад ногі дай свет цэлы,
Хай гіне ў муках свет балесных.
Ускормлен мясам чалавечым,
Крывёй народнаю скупаны,
Народам волю абязвечыў,
Лютуе кат пад звон кайданаў.
На Беларусь, маю радзіму,
Як шакал рынуўся галодны,
На Беларусь, што леты, зімы
Жыла шчасліваю, свабоднай.
І рэжа, вешае нявінных
Бацькоў, дзяцей і старцаў кволых,
Крывавым полымем скаціна
Папеліць гарады і сёлы.
Мой край расквечаных прастораў
Сваім салдацкім топча ботам...

Ох, і адпомсціць за ўсё гора
Народ за кроў, за сон пад плотамі!
Ужо нядоўга панаванне
Яго разбойніцкае дзічы,—
Усенароднае паўстанне
Яму апошнія дні ліча.
Паўстаў народны гнеў і помста,
Паўсталі грозна партызаны,
Б'юць фашыстоўскі зброд прахвостаў,
Б'юць, дабіваюць гнід паганых.
Чырвонай Арміі ў падмогу
Ідзе народ з байцамі разам,
Да шчасця церабіць дарогу,
Знішчаць нямецкую заразу.
Так дзень зближаецца расплаты
За ўсё, што выцерпелі гэтак,
За нашы спаленыя хаты,
За нашых выразаных дзетак.
Ачысцім нашы лес і поле
Ад Гітлера, ад яго бандаў,
Зноў будзем шчасце мець і волю
У сваіх адноўленых прысадах.
Загоім раны, адбудуем
Свае сялібы зруйнаваны,

Сваю краіну маладую
Святлом асвецім нечуваным.
Зірнуць зноў нашы ў высь палацы,
Святочна прыбяруцца людзі,
Як красаваўся, красавацца
Чырвоны сцяг над намі будзе.

